

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№226 (739) 19 лістапада 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500023 экз. Кошт у розніцу — 25 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**Первый заместитель министра иностранных дел Беларуси Г.Таразевич принял посла США Д.Суорца по его личной просьбе.**

Обсуждены вопросы, которые имеют взаимный интерес.

❑

**Премьер-министр Беларуси В.Кебич сообщил на сессии Верховного Совета, что Совет директоров Мирового банка принял решение о выделении республике реабилитационного займа в размере 120 миллионов долларов.**

По словам главы правительства Беларуси, эти средства пойдут на реформирование экономики государства, закупку энергоносителей, медикаментов и пестицидов для сельского хозяйства.

❑

**Совет Министров Беларуси уполномочил Чрезвычайного и Полномочного Посла республики в Российской Федерации Виктора Даниленко на подписание соглашения между правительствами Беларуси и Японии о сотрудничестве в области нераспространения ядерного оружия и создания соответствующего комитета по сотрудничеству.**

❑

**Сбор подписей за отмену смертной казни проводят в Беларуси представители Транснациональной радикальной партии.**

Списки с подписями предполагается передать белорусским парламентариям, а также в Международную лигу за отмену смертной казни.

❑

**Вскоре в Минск приедет генеральный директор Болгарского телевидения, чтобы подписать с белорусскими коллегами протокол о сотрудничестве и взаимообмене программами.**

❑

**Как сообщили в республиканском Комитете Красного Креста, 22—23 ноября в Киеве состоится заседание Координационного совета по проблемам чернобыльской катастрофы с участием представителей Беларуси, Украины, России, а также Международного комитета Красного Креста.**

❑

**В соответствии с распоряжением президента России Бориса Ельцина Центральный музей В.И.Ленина закрыт на демонтаж экспозиции.**

Планируется, что в этом здании будет размещена Московская городская дума.

❑

**В столице Грузии введен график ограниченного потребления электричества, что вызвано переживаемым республикой энергетическим кризисом.**

Дважды в день, в общей сложности на шесть часов, подача электроэнергии прекращается всем объектам, кроме жизненно важных.

❑

**С 16 ноября в Беларуси поднялась цена на услуги такси.**

Отныне километр пути в таксомоторе обойдется пассажирам в 500 рублей, что на сто рублей больше предыдущих расценок.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Нет денег на детали. Не будет и на зарплату

**До конца этого месяца перешел на четырехдневку коллектив ПО "Минский тракторный завод".**

Как сообщил заместитель генерального директора предприятия Владимир Нестерович Дычкин, причиной тому стало отсутствие материалов и комплектующих деталей, на приобретение которых нет российских денег. В связи с сокращением рабочих дней труженикам предприятия "урезана" и зарплата.

**Анатолий РОМАНОВИЧ.**

### Спорт-экспресс

В первенстве МХЛ хоккеисты минского "Тивали" проиграли у себя на площадке челябинскому "Трактору" — 2:4. Кстати, вносим уточнение в расклад групп Кубка Европы по хоккею, который пройдет с 26 ноября по 3 декабря в Дюссельдорфе.

1-я группа: "Дюссельдорф", "Милан", ТПС, "Тивали".

2-я группа: "Мальме", "Динамо", "Брюнес", "Спарта".

❑

Мужская сборная Беларуси по волейболу отправилась в Испанию, где вместе с командами хозяев, Болгарии и Румынии будет оспаривать единственную путевку в финал чемпионата мира.

❑

Футбольная сборная России проиграла отборочный матч чемпионата мира-94 команде Греции — 0:1 и заняла в своей группе второе место вслед за греками. Тем не менее россияне вышли в финал чемпионата.



### За какой "срок" погаснет нацизм?

**В Санкт-Петербурге завершился судебный процесс над председателем Народно-социалистической партии Андреевым.**

Ему инкриминировалось наличие в квартире портрета Гитлера, повязок со свастикой, нацистской и антисемитской литературы, а также ношение холодного оружия. В итоге Андреев приговорен к 1 году и 6 месяцам лишения свободы условно с испытательным сроком 2 года.

**Михаил КАРЧИК.**

### Мороз под пальмами

**Сотрудники Центрального ботанического сада предпринимают отчаянные усилия по спасению пальмария, где собрана уникальная коллекция пальм.**

Угроза связана с морозами, а эвакуировать его в другое место невозможно — деревья проросли в грунт и вымахали в высоту. Сегодня в пальмарии плюс четыре градуса.

Сберечь коллекцию обещали народные депутаты, городские власти, но, видимо, обещания стали амплуа нынешних руководителей. Еще немного, и деревья — краса и гордость Ботанического сада — погибнут. И тогда тех, кто за ними ухаживает, ждет сердечный приступ и крушение всякой исследовательской работы.

**Лилия НИКОЛАЕВА.**

### Таможня наполняет рынок

**Более чем на 100 миллионов рублей скопилось конфискованных товаров на таможнях Витебской области.**

А с начала года представители этой службы и работники ГАИ задержали контрабанды и в результате ее продажи передали в госбюджет без малого миллиард. В числе арестованного дефицита — бензин, цветной металл, ковры, ткани, радиоаппаратура, яйца.

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

### Суд идет... два года

**Более двух лет добивается восстановления на работе бывший директор Жлобинского городского объединения жилищно-коммунального хозяйства А.Семенцов.**

По его делу состоялось уже 17 судебных процессов. В очередной раз этим займется выездная коллегия по гражданским делам Верховного суда. Но надежд у Александра на нее мало. Потому и стал он обращаться в Верховный Совет, в посольства других стран за помощью. Истинная причина увольнения, как склонен считать Семенцов, кроется в том, что он стал вскрывать факты коррупции и злоупотреблений различных должностных лиц.

**Анатолий ГОМЕЛЬСКИЙ.**

### Народ не безмолвствует

**Недавно на Брестском электроламповом заводе образовался стихийный митинг. Причина — трагический исход ночной погони по территории завода.**

*Находившийся* при исполнении служебных обязанностей стрелок ВОХР задержал работника предприятия, пытавшегося унести с завода вместительные тюки. При попытке бегства охранник произвел два выстрела в вора и смертельно ранил его. Событие вызвало неоднозначную реакцию на заводе. По мнению собравшихся, стрелок явно превысил свои полномочия. Окончательно точки над "i" расставит следствие.

**Олег СУПРУНЮК.**

### В ритмах осени

**Завтра в Витебске открывается традиционный, 20-й по счету, фестиваль искусств "Белорусская музыкальная осень".**

В течение 10 дней выступят ведущие исполнительские коллективы Минска, областных филармоний нашей республики, а также мастера России и Грузии. Они дадут более 50 концертов в лучших залах городов и в сельских клубах. Среди гостей области — Государственный академический оркестр Беларуси им. Жиновича, ансамбль народной музыки "Свята", танцевальный коллектив "Белые росы" из Гродно, Государственный академический ансамбль народного танца Грузии, минский духовой оркестр "Немига" и многие другие группы и солисты.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Парламент дае яшчэ адзін шанц ураду?

**Мікалай ГАЛКО**

Спрэчкі па справаздачных дакладах Шушкевіча, Кебіча і Багданкевіча былі настолькі працяглымі, а прадмет абмеркавання настолькі сур'ёзным, што перад камісіяй па падрыхтоўцы праекта пастановы ўзнікла цяжкасць, як усё ўлічыць, узважыць, а галоўнае, прапанаваць нешта рэальнае, свежае, мудрае. Камісія папрасіла не прыспешваць яе, і Вярхоўны Савет у чаканні заняўся іншымі пытаннямі.

Учора да абедзеннага перапынку дэпутаты ратыфікавалі Дагавор аб эканамічным саюзе з Расіяй, прынялі пастанову аб практычных мерах па стварэнню рублёвай зоны новага тыпу і абмеркавалі магчымасць аб'яднання грашовых сістэм Расійскай Федэрацыі і Беларусі.

З двума першымі пытаннямі было прасцей. Дагавор аб эканамічным саюзе — дакумент не прамога дзеяння, ён з'яўляецца ўсяго толькі прававым падмуркам для далейшых зносін. І аналагічныя дамоўленасці на дзяржаўным узроўні ўжо былі, вакол іх таксама ламаліся дзіды, сутыкаліся супрацьлеглыя думкі, але праходзіў час і дакументы пакрываліся архіўным пылам, пра іх проста забываліся.

Праўда, пры абмеркаванні выказвалася і катэгарычная нязгода з ратыфікацыяй. Найбольш пераканаўча, як мне здалося, выступаў Уладзімір Заблоцкі ад імя апазіцыі БНФ: трэба паважаць Беларусь як суверэнную дзяржаву і рабіць усё, каб мець уласную валюту, уласную фінансавую палітыку.

Станіслаў Шушкевіч тым не менш прасіў дэпутатаў даць яшчэ адзін шанц ураду, бо без гэтага ўрад не зможа стабілізаваць сітуацыю.

Не лішне заўважыць, што ў сценах Вярхоўнага Савета неаднойчы гучалі гэтыя словы пра яшчэ адзін шанц, пра яшчэ адзін выратавальны круг.

Колькасць дэпутатаў, якія прагаласавалі за ратыфікацыю дагавораў аб эканамічным саюзе і аб стварэнні рублёвай зоны новага тыпу, была вялікай — адпаведна 264 і 232.

Дарэчы, дэпутат Віктар Какоўка спрабаваў напомніць калегам аб дысцыплінарна-маральнай адказнасці і раіў запісаць у пастанову імя ініцыятара пагадненняў — прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча. З тым, каб была магчымасць праз некаторы час спытаць, працуе пагадненне альбо не, і калі не, то чаму, ці патрэбна яно было.

Пагадненне аб аб'яднанні грашовых сістэм Расіі і Беларусі носіць канкрэтны характар, таму ў спрэчках градус напружання ўзняўся да самага высокага ўзроўню.

У дадзеным выпадку прыйшлося папацець на трыбуне дзяржсакратару па справах СНД Уладзіміру Заламаю. Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч папракнуў урад, што ад яго не паступілі адпаведныя дакументы. Гаварылася і пра экспертны водгук спецыялістаў Міжнароднага валютнага фонду, які быццам бы недзе згубіўся, не дайшоўшы да дэпутатаў.

Слова ўзяў віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг. Некалькі палымяных слоў сказаў аб тым, што ўрад не збіраецца танцаваць пад замежныя дудкі, хто б ні іграў на іх. Бо інакш Беларусь губляе сваю годнасць, псуе аўтарытэт, траціць суверэнітэт. На ўвазе мелася Заходняя Еўропа і Амерыка.

Самае смешнае, што пра тую ж страту суверэнітэту гаварылі і апаненты Лінга, толькі ў стасунках да Расіі.

Зноў выклікаў агонь на сябе Аляксандр Сасноў. У яго ёсць цвёрдыя перакананні і, што зусім не лішне, спецыяльныя веды ў эканоміцы. Ён адзіны з членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, хто ўстрымаўся ад ухвалы пагадненняў. Прамова перад дэпутатамі атрымалася злабадзённай — як выбух бомбы. Аляксандр Віктаравіч лічыць, што пагадненні ставяць Беларусь у залежны ад Расіі стан і падтрымліваць іх здольны толькі расійская "пятая калона" і мясцовыя калабарацыяністы. Пікантнасць сітуацыі ў тым, што Саснова нават пры самых вялікіх нацяжках немагчыма назваць беларускім нацыяналістам.

Іншую пазіцыю адстойваў Аляксандр Лукашэнка. Не менш палымяна, не менш энергічна. У дадзеным выпадку дэпутат выступаў і як член урадавай дэлегацыі, што падпісвала ў Маскве пагадненне.

Узровень аргументаў Аляксандра Лукашэнкі, відаць, не спадабаўся Шушкевічу, і ён выказаўся, што разумее, хто быў экспертам у Кебіча.

Востра. Балюча. Крыўдна. Усе гэтыя пачуцці прысутнічалі ў думках тых, хто слухаў дыскусію.

Мікалай Грынёў заўважыў, што быццам бы і абмяркоўваць няма чаго, бо і людзі, і працоўныя калектывы падтрымліваюць аб'яднанне грашовых сістэм.

Каб так проста ўсё было... Пытанне вельмі спецыфічнае, і на ўзроўні бытавога ўсведамлення яго немагчыма вырашаць.

*Чорнае крыло Чарнобыля*

### Вёска Мочуль просіць дапамогі

**Звяртаемся праз "Народную газету" да кіраўніцтва рэспублікі з апошняй надзеяй, што нас зразумеюць і не пакінуць у бядзе.**

Восьмы год мы жывём у радыяцыйным палоне з трывогай, асабліва за лёс нашых дзяцей. Напачатку вёска Мочуль лічылася забруджанай, нам выплачвалі грашовую кампенсацыю, мы карысталіся льготамі. Але ў мінулым годзе ўсё раптам памянялася: аб'явілі, што Мочуль ужо не ўваходзіць у небяспечную зону (менш за 1 кі/км$^2$).

Калі б гэта было сапраўды так, то мы лічылі б сябе самымі шчаслівымі людзьмі. Толькі факты гавораць зусім пра іншае... За апошнія гады рэзка пагоршыўся стан здароўя дзяцей. У большасці з іх значна павялічана шчытападобная залоза, упершыню зарэгістравана страшная хвароба крыві ў адной дзяўчынкі.

Розныя начальнікі гавораць, што, маўляў, няма падстаў для трывогі. Чаму ж тады "свеціцца" сена з лугоў, малако? Нельга ўжываць у ежу грыбы і ягады, рыбу і г.д. Вельмі шмат кароў маюць лейкоз — і калгасныя, і ўласныя. Часта мясакамбінаты адмаўляюцца прымаць ад нас жывёлу.

У суседняй вёсцы Рэмель, якая размешчана за паўтара кіламетра ад нас, уся прадукцыя жывёлагадоўлі і раслінаводства забруджана. І ніхто не звяртае ўвагі на тое, што ўсё трапляе ў адзін кацёл (нашы вёскі ўваходзяць у адзін калгас). Чаму ўсіх школьнікаў Рэмельскай школы падзялілі на "белых" і "чорных"? Першыя атрымліваюць чыстыя прадукты харчавання, а мочульцы — не. Як гэта растлумачыць нашым дзецям? І як увогуле можа быць такое, што ў моцна забруджанай зоне застаўся адзін маленькі "чысты" востраў плошчай 1,5 км$^2$, дзе жывуць каля 700 чалавек?

**Пісьмо падпісалі больш як 200 жыхароў вёскі Мочуль Столінскага раёна.**

*Сустрэчы*

### Напружанне ёсць, непакой таксама

**Паставіць плаціну на "рацэ" маладзёжнай злачыннасці вырашылі ўдзельнікі міжнароднай сустрэчы, якая адкрылася ў Марселі.**

Тут сабраліся прадстаўнікі маладзёжных арганізацый Германіі, Францыі і Беларусі, каб разгледзець праблемы рабочых раёнаў вялікіх індустрыяльных гарадоў і крымінагеннай абстаноўкі ў маладзёжным асяроддзі. Удзел Беларусі ў гэтай сустрэчы даволі актуальны для рэспублікі. Таму што, паводле прызнання старшыні Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў рэспублікі Міхаіла Падгайнага, нягледзячы на адносна спакойную абстаноўку, у Беларусі назіраецца даволі моцнае сацыяльнае напружанне ў маладзёжным асяроддзі. Праведзенае ў рэспубліцы сацыялагічнае апытанне паказала, што за апошні год узрасла колькасць правапарушэнняў не толькі сярод "вулічных" падлеткаў, але і ў ВНУ, якія раней лічыліся ў гэтым сэнсе станоўчымі. На злачынствы ўсё часцей ідуць дзяўчаты. Як адзначаецца ў даследаванні, 44 працэнты моладзі гатовы прыняць удзел у забастоўках, галадоўках, актах грамадзянскага непадпарадкавання, 17 — ва ўзброеных выступленнях.

Такая сітуацыя не магла не падштурхнуць дзяржаўныя структуры да прыняцця кардынальных рашэнняў. У рэспубліцы ўжо створаны цэнтры псіхалагічнай падтрымкі і сацыяльнай адаптацыі моладзі. У бліжэйшыя 2—3 гады яны паявяцца ва ўсіх гарадах Беларусі, дзе сёння адчуваецца напружанасць у маладзёжным асяроддзі.

Германія і Францыя, якія маюць вялікі вопыт работы з "цяжкай" моладдзю, дадуць беларускім калегам магчымасць пазнаёміцца з дзейнасцю такіх цэнтраў у сваіх краінах. Прадугледжана стажыроўка беларусаў у Францыі і Германіі, і наадварот. Восенню будучага года такая сустрэча адбудзецца ў Мінску.

**Наталля НЕВІДОМАЯ, Белінфарм.**



*Заява выканаўчага камітэта Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады*

### Вызваліць органы масавай інфармацыі з-пад урадавай цэнзуры

Беларускае грамадства з'яўляецца сведкам таго, як урад абмяжоўвае свабоду слова і друку ў нашай краіне.

Дзеля абмежавання аднаго з фундаментальных правоў выкарыстоўваюцца два інструменты.

У сувязі з цяжкім матэрыяльным становішчам газет і часопісаў урад стаў сузаснавальнікам шмат якіх выданняў. Ён непасрэдна фінансуе іх і кантралюе. Прэм'ер-міністр адкрыта заявіў, што ён будзе падтрымліваць толькі тыя выданні, якія не крытыкуюць Савет Міністраў. Цяпер робяцца спробы закрыць трыбуну для прадстаўнікоў розных палітычных плыняў, якой была і ёсць самая папулярная і незалежная ад урада "Народная газета". Паколькі гэтае выданне з'яўляецца органам Вярхоўнага Савета, урад пры дапамозе пракамуністычнай плыні ў парламенце імкнецца памяняць галоўнага рэдактара "Народнай газеты".

Непасрэдны кантроль за дзейнасцю органаў масавай інфармацыі ажыццяўляе аддзел друку, радыё і тэлебачання Савета Міністраў. Гэта ўрадавая структура пастаўлена вышэй за міністэрствы. Гэты аддзел, як сведчаць факты, прадпісвае рэдакцыям, якую інфармацыю і ў якой дозе даводзіць на ведама грамадзян краіны, накладвае абмежаванні на выступленні ў падкантрольных газетах, на дзяржаўным радыё і тэлебачанні дзеячаў апазіцыйных партый.

Па ініцыятыве аддзела друку, радыё і тэлебачання быў закрыты незалежны, самафінансуемы 8-ы канал на тэлебачанні. Палітычная падаснова гэтага рашэння з усёй відавочнасцю пацвердзілася ў канцы верасня 1993 г. Даючы дазвол на аднаўленне дзейнасці незалежных тэлекампаній, урадавыя структуры прадпісалі ім "воздерживаться" ад "организации политических программ и предоставления эфира политическим партиям, движениям и парламентским фракциям". Забароненыя таксама каментарыі "к официальным действиям государственных и властных структур". Чыноўнікі з аддзела друку, радыё і тэлебачання забаранілі самафінансуемым кампаніям даваць эфірны час у арэнду. Значыць, апазіцыя не зможа нават купіць права на выкладанне сваіх поглядаў народу.

Беларускія сацыял-дэмакраты выказваюць пратэст у сувязі з наступленнем рэакцыйных сіл на свабоду слова і друку. БСДГ будзе інфармаваць сацыял-дэмакратычныя партыі іншых краін, еўрапейскую грамадскасць аб стане правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь.

БСДГ выказвае салідарнасць з журналістамі "Народнай газеты" — апошняга афіцыйнага штодзённага органа друку, які не знаходзіцца пад кантролем урада.

Выканкам Цэнтральнай рады БСДГ выказваецца за скасаванне не прадугледжанага законам аддзела друку, радыё і тэлебачання Савета Міністраў. Выканкам рэкамендуе народным дэпутатам — сябрам Грамады пры абмеркаванні праекта закона аб друку настойваць на тым, каб фінансаванне органаў масавай інфармацыі праводзілася не Саветам Міністраў, а праз дзяржаўны бюджэт, як гэта прынята ў дэмакратычных краінах.

*г.Мінск.*

*А што ў правінцыі?*

### Колькі каштуе цяпер білет?

У два з паловай разы ўзрос з 17 лістапада кошт праезду ў гарадскім аўтатранспарце Гомельшчыны. Прыйдзецца раскашэліцца і пасажырам у прыгарадных аўтобусах. Кошт жа месячнага сумешчанага праязнога білета дасягнуў дзвюх тысяч шасцісот рублёў.

### І сваім перападае

Адразу 35 новых мадэляў трыкатажных вырабаў было прадстаўлена на прагляд мастацка-тэхнічнага савета ў пінскім гандлёва-прамысловым аб'яднанні "Палессе". Касцюмы, жакеты, світэры вызначаюцца шырокай гамай расфарбовак і фасонаў. Некаторыя з іх выкананы па заказах замежных фірм. Плануецца, што ўжо ў наступным годзе ўсе навінкі будуць запушчаны ў вытворчасць і паявяцца на прылаўках беларускіх магазінаў.

**Белінфарм.**

*Як стала вядома*

### Візіт экспертаў МВФ завяршаецца даволі паспяхова

**Як паведамлялася, у Мінску знаходзіцца спецыяльная місія Міжнароднага валютнага фонду (МВФ). Яе мэта — пачатак перагавораў па прадастаўленню Беларусі другой траншы крэдыту СТФ і крэдыту стэнд-бай. У інтэрв'ю карэспандэнту Белінфарма кіраўнік місіі Генры Лоры заявіў, што "рабочы візіт завяршаецца даволі паспяхова". Праведзеныя сустрэчы, гутаркі з кіраўнікамі ўрадавых структур датычылі ў асноўным перспектыў развіцця адносін паміж МВФ і Рэспублікай Беларусь на 1994 год.**

У гутарках з абодвух бакоў адзначалася, што пачатак 1994 года будзе для эканомікі рэспублікі яшчэ больш цяжкім. Пан Лоры асабліва ўказаў на нязменную добразычлівасць ва ўзаемаадносінах МВФ і Беларусі. У час рабочага візіту экспертам МВФ была дадзена практычна ўся неабходная інфармацыя, якая адлюстроўвае сітуацыю ў эканоміцы рэспублікі.

Як вядома, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь абавязаў урад прадаставіць да 1 лістапада пакет прапаноў, што датычаць змяненняў у беларускім заканадаўстве ў сувязі з маючым адбыцца заключэннем эканамічнага саюзу з Расіяй. Кіраўнік місіі МВФ на пытанне, ці азнаёмлены эксперты з дакументамі гэтага пакета, адказаў адмоўна. Гаворачы аб адносінах МВФ да магчымага ўступлення Беларусі ў рублёвую зону новага тыпу, Генры Лоры падкрэсліў, што "гэта ўнутраная справа Беларусі. І МВФ не мае намераў нейкім чынам аказваць уплыў на рашэнне Вярхоўнага Савета". Ён таксама сказаў, што большая яснасць адносна прадастаўлення другой траншы крэдыту СТФ і крэдыту стэнд-бай у немалой ступені залежыць ад часу зацвярджэння бюджэту на наступны фінансавы год.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА,**

### Венгерскія "Ікарусы" з Беларусі

**З мэтай развіцця двухбаковага супрацоўніцтва нашых краін у Беларусь прыбыла дэлегацыя міністэрства прамысловасці і гандлю Венгрыі.**

У першы ж дзень прыезду госці, як кажуць, не марнавалі дарэмна час. Яны нанеслі візіт у Вярхоўны Савет і сустрэліся там з членамі Пастаяннай камісіі па прамысловасці і паслугах насельніцтву.

У час гутаркі, якая прайшла ў цёплай, дружалюбнай абстаноўцы, кіраўнік венгерскай дэлегацыі доктар Іштван Паханковіч выклаў галоўную мэту іх прыезду. Яна зводзіцца ў асноўным да вывучэння магчымасцей умацавання сувязей у галіне машынабудавання, вытворчасці лякарстваў і медыцынскай тэхнікі, іншых сферах дзейнасці. Ён таксама падкрэсліў, што ў яго на радзіме добрай рэпутацыяй карыстаюцца мінскія трактары. Ужо каля 50 тысяч іх паспяхова выкарыстоўваецца на розных работах. Таму было выказана пажаданне аб далейшай пастаўцы трактароў і запасных частак да іх.

Дырэктар вядомага аўтазавода "Ікарус" Ферэнц Мурарык пазнаёміў з асноўнымі праблемамі, над вырашэннем якіх цяпер працуе яго калектыў. Гэта перш за ўсё выпуск папулярных аўтобусаў з рухавіком, які мала забруджвае навакольнае асяроддзе. Ён таксама паведаміў, што ёсць намеры збіраць "Ікарусы" непасрэдна ў нас у рэспубліцы.

Усе гэтыя пытанні яшчэ будуць абмяркоўвацца ў час сустрэч у адпаведных міністэрствах і ведамствах. Планам візіту прадугледжваецца наведванне венгерскімі спецыялістамі мінскіх трактарнага і маторнага заводаў, "Белзнешэканамбанка", Дзяржаўнага камітэта па знешніх эканамічных сувязях, а таксама падпісанне сёння дэкларацыі аб намерах па супрацоўніцтву паміж Дзяржаўным камітэтам Беларусі па прамысловасці і міжгаліновых вытворчасцях і міністэрствам прамысловасці і гандлю Венгрыі.

**Белінфарм.**

*Гасцёўня "Народнай газеты"*

# Няма такой дысцыпліны, як "нацыянальная самасвядомасць", але кожная лекцыя, кожная гадзіна ў нашых сценах павінны выхоўваць яе ў студэнта

## Наш госць — рэктар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Леанід ЦІХАНАЎ

**— Леанід Ніканоравіч, калі ставіць мэтай адраджэнне беларускай вышэйшай школы — да якіх узораў, на ваш погляд, тут трэба звяртацца? На якія традыцыі абапірацца?**

— На якім падмурку развіваць, а дакладней, ствараць нацыянальную вышэйшую школу, у прыватнасці — педагагічную? У гісторыі беларускай адукацыі ёсць такі падмурак. У XIV—XVII стагоддзях мы ведалі так званыя брацкія школы з іх гуманістычнымі традыцыямі. Існавалі трывалыя сувязі з іншымі краінамі, дзе наша моладзь атрымлівала адукацыю і потым несла святло еўрапейскай культуры на Радзіму. Дзесьці там і трэба шукаць карані выхавання нацыянальна свядомых людзей на Беларусі.

Заўважце, як шмат дзеячаў беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя выйшла з настаўніцкага асяроддзя. Зусім не выпадкова. Гэта сёння настаўнік — толькі выкладчык пэўнай дысцыпліны. А ў той час гэта быў у пэўным сэнсе сінонім паняцця "інтэлігент". Настаўнікі пачатку стагоддзя былі шырока адукаванымі людзьмі, вялі асветніцкую дзейнасць у сялянскай, па сутнасці, краіне. Менавіта яны ў значнай ступені падрыхтавалі глебу для росквіту нацыянальнай культуры.

**— У глыбіні душы вы, відаць, таксама хочаце бачыць сваіх выпускнікоў не толькі вузкімі спецыялістамі?**

— Канешне, але як яшчэ далёка да гэтага ідэалу! Кожны раз на дзяржэкзаменах уважліва ўглядаюся ў твары маладых людзей, якія выйдуць у свет з нашым дыпломам, якім выпала несці, а скажам шчыра, вяртаць родную мову свайму народу... Не магу сказаць, што я заўсёды застаюся задаволены.

Пытанне мовы, дарэчы, для нас не самае цяжкае. Мы яго вырашым, і нават хутчэй, чым гэта прадугледжана Законам аб мовах. З 1 верасня ўсе факультэты незалежна ад спецыяльнасці перайшлі на беларускую мову выкладання. Уведзена атэстацыя ўсіх выкладчыкаў на веданне мовы, інакш кажучы — на магчымасць выконваць свае абавязкі. Гэта ўсё — адчувальныя зрухі. Створана, такім чынам, моўнае асяроддзе, і нашы выпускнікі мовай валодаць будуць. Але я не заўсёды бачу, каб студэнты былі "апантаныя" ідэяй нацыянальнага адраджэння, каб мысленне ў іх было нацыянальным. Далёка не ўсе маюць разуменне, што без ведання і пачуцця каранёў нельга жыць. Гэта турбуе.

**— Калі вы абяцаеце датэрмінова выканаць Закон аб мовах — нешта бянтэжыць..**

— Ці няма тут кампанейшчыны, хочаце спытаць? Па-першае, мы пачалі выконваць закон яшчэ да яго прыняцця. Інакш і быць не магло: нашы спецыялісты ўдзельнічалі ў яго распрацоўцы, шмат нашых ідэй трапіла ў законапраект. Па-другое, у нас традыцыйна былі моцныя кафедры беларускай мовы і літаратуры. Іншая справа, што яны былі выключаны з грамадскага жыцця, гэта значыць не мелі вакол шырокага асяроддзя, у якім распаўсюджвалі б свае ідэі, знаходзілі б зацікаўлены водгук. Зараз, калі такое асяроддзе з'яўляецца, само жыццё абавязвае нас быць цэнтрам, калі хочаце, лідэрам нацыянальнага адраджэння. Было б дзіўна, калі б мы марудзілі з выкананнем Закона аб мовах.

Калі шукаць праблему, дык яна ў іншым — беларусізацыя патрабуе сродкаў. А дзяржава зараз, як вядома, небагатая.

**— Дарэчы, пра сродкі. Зараз навокал, бадай, не засталося простых інстытутаў, амаль усе атрымалі больш гучнае імя "універсітэт" ці "акадэмія". Вас таксама можна павіншаваць — з 8 верасня вы развіталіся з імем Горкага і зараз носіце назву...**

— ... Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт. Але да гэтай змены шыльды мы рыхтаваліся амаль два гады. Педагагічная адукацыя па свайму зместу павінна быць універсітэцкай. Зараз мяняюцца падыходы. Відавочна, што цяпер патрэбны настаўнікі, якія маюць грунтоўную навуковую падрыхтоўку, больш шырокі кругагляд. Толькі сапраўдны інтэлігент будзе карыстацца павагай вучняў.

Добра разумееш, што кожны студэнт такім не стане. Але ж нямала і тых, што імкнуцца да больш высокай кваліфікацыі. Для іх і створана так званая шматузроўневая сістэма навучання — наш універсітэт цяпер можна скончыць і проста выкладчыкам, можна — бакалаўрам, а самыя таленавітыя і працаздольныя атрымаюць ступень магістра. Па сутнасці, яны будуць гатовымі выкладчыкамі для інстытутаў, тэхнікумаў і элітных школ.

**Аляксандр ЯГОРАЎ.**

*Вачыма мастака*

Малюнак Алега ПАПОВА.

*Помогите!*

## Мы б переехали в село...

Уважаемая редакция!

Моя семья постоянно читает "Народную газету". На мой взгляд, она действительно народная и поэтому мы любим ее и постоянно ждем свежего номера.

Мне очень приятно, что газета затрагивает все стороны нашей теперешней жизни, что вы даете людям советы, помогаете читателям.

Поэтому я обращаюсь именно к вам, так как почти везде сталкиваюсь с безвластием и безразличием к человеческим судьбам.

Моя подруга, ей 32 года, еще год назад потеряла работу и куда ни обращалась, нигде и никто не может ей помочь. Перебивается случайными заработками: то свеклу полет (берет в колхозе), то убирает. Но на такие средства при нынешних ценах далеко не уедешь.

Город наш на Брестчине маленький, перспективы — никакой. Ее сыну 13 лет, очень хороший и талантливый мальчик. Находятся они в таком положении, как и многие другие, но у других есть полноценная семья, а как ей жить без зарплаты? Да и пособия на сына она не получает, так как не имеет статуса безработного.

Человек она хороший, работящий, энергичная, чуткая и справедливая, никогда не гнушается любой работы, так как выросла в деревне в многодетной семье.

Поэтому большая просьба к вам, дорогие соотечественники, дорогие наши земляки, — откликнитесь, кто знает, в какой колхоз можно переехать, чтобы иметь нормальное жилье и работу.

А заодно и моя семья переехала бы в колхоз. Муж мой хороший специалист-строитель (облицовщик, плиточник-мозаичник, каменщик и др.), но может работать и в животноводстве. Не пьет, семья наша дружная.

Я работаю на низкооплачиваемой работе, так как попала под сокращение, и зарплата моя — 15 тысяч в месяц. Хотя по образованию я бухгалтер, а также имею стаж работы продавца, кассира-диспетчера, но не боюсь и колхозных работ, так как тоже росла в деревне. Желательно бы жить в колхозе, где есть садик, школа, в общем, нормальные условия для развития наших детей. Могу заверить: кому нужны такие люди, как мы, не будут сожалеть о помощи, которую вы нам окажете.

Мой адрес: 225830, Брестская область, г.Дрогичин, ул.К.Маркса, 36, кв. 44.

**КОХОВИЧ Нина Емельяновна.**

*Ці чулі?*

## Збываючы фальшыўкі, прыкіньцеся прасцякамі

**Колькасць канфіскаваных фальшывых купюр у бягучым годзе — больш як паўтысячы фактаў — сведчанне не толькі пільнасці банкаўскіх і іншых служачых, колькі актывізацыі падпольных мастакоў.**

І пакуль праваахоўныя органы ўсіх рэспублік былога Саюза шукаюць апошніх, друкарскі станок фальшываманетнага двара набірае хуткасць. Не так важна, дзе ён знаходзіцца: на ўсходзе ці на захадзе. Беларусь жа пасярэдзіне.

За два мінулыя тыдні супрацоўнікі Брэсцкага і Гродзенскага аддзелаў транспартнай міліцыі склалі каля дзесятка пратаколаў канфіскацыі фальшывых грошай, у асноўным долараў ЗША. Купюры вартасцю 5, 10, 20, 50 і 100 долараў, як правіла, трапілі ў рэспубліку з Польшчы, Расіі і Украіны. Напрыклад, жыхар Чэлябінскай вобласці ў касу Інтурыста ў Брэсце для аплаты прад'явіў падробку ў адзін мільён польскіх злотых, якую набыў па месцы жыхарства.

У Гродне пры спробе разняняць стодоларавую фальшыўку была затрымана мясцовая жыхарка. Паводле яе слоў, купюру папрасілі размяняць невядомыя хлопцы за ўзнагароду.

Па ўсіх фактах праводзяцца расследаванні. Аднак, згодна з Крымінальным кодэксам, "калі асоба не ўсведамляе, што збывае падробныя грошы, яна не можа несці адказнасць..."

**Віктар ФЕДАРОВІЧ,**
**БелаПАН.**

*Двума абзацамі*

## Сумная статыстыка Гродзеншчыны

**Упершыню за многія гады колькасць памёршых на Гродзеншчыне перавысіла колькасць тых, хто нарадзіўся. Паводле паведамлення абласнога ўпраўлення статыстыкі, за 9 месяцаў гэтага года ў рэгіёне паявілася на свет 11.198 чалавек, тады як памерлі 11.920.**

Пры гэтым колькасць тых, хто нарадзіўся, у параўнанні з такім жа перыядам мінулага года зменшылася на 6,8 працэнта, а колькасць памёршых, наадварот, павялічылася на 13,5 працэнта.

## Граніца на замку...

**Рэйд у рэжымнай зоне КПП "Варшаўскі мост" правёў атрад пагранічнага кантролю "Брэст" сумесна з праваахоўнымі органамі.**

Затрыманы 26 чалавек, якія незаконна знаходзіліся на тэрыторыі пункта пропуску. Сярод іх былі і чацвёра рэкеціраў, якія займаліся вымаганнем.

**Белінфарм.**

*Рэпарцёр даведаўся*

## Пакаленне, якое не нарадзілася

**Як паведаміла карэспандэнту РІДа начальнік аддзела аховы мацярынства і дзяцінства Міністэрства аховы здароўя рэспублікі Зінаіда Арцёмаўна Сяўкоўская, у рэспубліцы штогод, так і не нарадзіўшыся, гіне больш як 94 тысячы дзяцей.**

На тысячу жанчын дзетароднага ўзросту прыпадае 38 выпадкаў перарывання цяжарнасці. А калі ўлічыць і мініаборты, дык на кожныя роды ў Беларусі прыпадае два аборты, што значна вышэй за аналагічны паказчык у замежных краінах. Дарэчы, ад агульнай колькасці абортаў на долю непаўналетніх прыпадае больш як 9 працэнтаў аперацый падобнага роду. Толькі за мінулы год быў зарэгістраваны 91 выпадак перарывання цяжарнасці ў дзяўчынак да 15 гадоў.

**Анатоль РАМАНОВІЧ.**

## Нічога не значыць кітайскую мову засвоіць?

**Вядомы анекдот пра тое, што для нашага студэнта нічога не значыць вывучыць і кітайскую мову за ноч да здачы экзамену, відаць, можа стаць рэальнасцю. Калі ўлічыць, што студэнцкая брація нават у самага строгага выкладчыка ўмудраецца зазірнуць у падручнік, дык тым, хто вывучае кітайскую мову ў Беларускім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, будзе дастаткова лёгка атрымаць свае залікі.**

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі Ван Сінда перадаў у дар ВНУ цэлую бібліятэку, якая складаецца, дарэчы, не толькі з вучэбных і метадычных выданняў, але і мастацкай, навукова-папулярнай літаратуры. Так што акрамя вывучэння экзатычнай для беларусаў мовы студэнты змогуць з першакрыніц пазнаёміцца і з традыцыямі краіны, пачытаць раманы лепшых кітайскіх пісьменнікаў у арыгінале.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ,**
**Белінфарм.**

## Перайграў усіх

**Лепшым гарманістам Беларусі стаў на рэспубліканскім конкурсе Міхаіл Рубанік.**

Ён перайграў 27 сваіх сапернікаў, якія прыехалі ў сталіцу памерацца майстэрствам, і стаў лаўрэатам конкурсу. Пераможцу ўручана прэмія — 50 тысяч рублёў.

Працуе М.Рубанік канцэртмайстрам у Мсціслаўскім раённым Доме школьнікаў. Ён родам з сям'і, дзе яшчэ тры браты — гарманісты.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ.**

*Карупцыя*

## Свой чалавек — чаму не паклапаціцца

**Пракуратура Гродзенскай вобласці ўнесла прадстаўленне ў гарадскі Савет народных дэпутатаў, у якім запатрабавала вызваліць ад займаемых пасад галоўнага архітэктара абласнога цэнтра Уладзіміра Лытава, яго намесніка Уладзіміра Анісімава і начальніка праектнага бюро Крысціну Сыраежка.**

Матывы — стварэнне імі рэжыму найбольшага спрыяння для дзейнасці кааператыва "Вант" і малога прадпрыемства "Акма". Як высветлілася, упраўленне архітэктуры і горадабудаўніцтва гарвыканкама заплюшчыла вочы на ўзвядзенне гэтымі структурамі будынкаў у парушэнне ўсякіх законаў і норм.

Прыцягнуты да адказнасці і іншыя вінаватыя, у прыватнасці работнікі Дзяржархбудкантролю. Незаконнае будаўніцтва прыпынена.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ,**
*г.Гродна.*

*У гасцях у Мельпамены*

## Новыя спектаклі "Жэста"

**Мінскі тэатр-студыя "Жэст", які знік са сталічных пляцовак амаль што на паўгода, зноў паявіўся са сваёй новай работай.**

Два вечары ў халодным Доме культуры ВА "Інтэграл", што на Асіповіцкай вуліцы, артысты прадстаўлялі спектакль "Традыцыйная кухня вострава Рукю". Сродкамі пластыкі расказалі яны пра гармонію і сэнс чалавечага жыцця, аб перамозе дабра над злом.

Магчыма, камусьці здаецца дзіўным, што таленавітая трупа "Жэста" не імкнецца паехаць ад цяжкасцей нашага жыцця куды-небудзь за мяжу — хоць бы на кароткачасовыя гастролі, як гэта робяць многія калектывы. Але самі акцёры лічаць за лепшае заставацца вернымі ідэі, што іх згуртавала, — несці святло і дабро на сваёй шматпакутнай Радзіме. І Вячаслаў Іназемцаў, мастацкі кіраўнік тэатра-студыі, у будучым месяцы плануе зноў паказаць прэм'ерны спектакль у Мінску.

**Руслан ШЧУЦКІ,**
**Белінфарм.**

*Эх, рынак!*

## Куды падацца моладзі?

**За 10 месяцаў бягучага года ў Калінкавіцкім цэнтры занятасці насельніцтва зарэгістраваны 1.256 беспрацоўных.**

Гэта кожны дваццаты калінкавічанін працаздольнага ўзросту. Асабліва пакутуе ад беспрацоўя моладзь: сярод тых маладых людзей, якія шукаюць работу, выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў — 9, выпускнікоў тэхнікумаў — 31, выпускнікоў прафтэхвучылішчаў — 82, сярэдніх школ — 76 і тых, хто вярнуўся са службы ў арміі, — 70.

У якім стане знаходзяцца справы з уладкаваннем на работу? З 1.256 чалавек працаўладкаваны 475. Калі гаварыць пра моладзь, дык тут справы такія: атрымалі работу спецыялісты з вышэйшай адукацыяй — 1, з сярэдняй спецыяльнай — 10, выпускнікі прафтэхвучылішчаў — 17, выпускнікі школ — 17, дэмабілізаваныя з арміі — 41.

Як бачна, большасць маладых беспрацоўных у Калінкавічах не могуць знайсці работу.

**Віктар САКОВІЧ,**
**БелаПАН.**



*Печальная история*

# Фабрикант и Фемида,

## или О том, как минский ученый стал канадским террористом

**Владимир ЛЕВИН**

Видимо, преподаватели Белорусской политехнической академии еще помнят своего коллегу с капиталистической фамилией Фабрикант. Молодой ученый преподавал сопромат, считался блестящим, но... неперспективным специалистом. Творческой энергией он буквально кипел и, понимая, что ему мало что светит, еще двенадцать лет назад эмигрировал в Канаду. Ему повезло: минский доцент стал ученым университета Конкордия в Монреале. Он снискал себе репутацию одного из лучших лекторов факультета инженерных и компьютерных наук. Добился Валерий Фабрикант и международного признания в ученой среде: в научной прессе опубликованы две его книги и десятки статей по теории упругости твердых тел.

По своим профессиональным качествам Фабрикант считал себя намного выше своих коллег. Здесь никто его не зажимал за "непролетарское" и "неарийское" происхождение, ибо в демократическом государстве такие вещи жестко и оперативно караются.

Но комплекс, что его постоянно зажимают, выработанный еще в тоталитарном Союзе, вдруг проявился с такой силой, что Валерий превратился в самого натурального склочника. А черту эту, истинно совковую, ничем невозможно вытравить.

И стал канадский ученый строчить доносы на коллег, будто монреальский университет — это БПИ, где сие привычно. Он обвинял коллег в плагиате, подавал на них иски в суд, подключил прессу и даже международную университетскую компьютерную почту.

Все жалобы Валерия Фабриканта специальная комиссия и юристы признавали необоснованными. Но это придавало ему только новых сил, и жизнь монреальских ученых превратилась в ад. По этой причине Фабриканту и было отказано в штатной профессорской должности. Так и не став канадским профессором, минский доцент пошел иным путем.

В августовский день в коридорах университета Конкордия появился маленький тщедушный лысоватый человечек. В руках он держал кожаный профессорский портфель, в котором был целый арсенал: три пистолета с заряженными обоймами и сто запасных патронов. Расстегнув его, он открывал стрельбу в каждого, кто попадался на пути. Профессор Мэтью Дуглас и доцент Майкл Хогбен были убиты на месте. Скончались в больнице смертельно раненые профессор Фонвос Зиогос и доцент Арон Сейбер. Элизабет Хорвуд, секретарше кафедры, повезло: она выжила.

Кровь пятерых человек обагрила стены университета. Но это еще не все. Как и подобает террористу, Фабрикант захватил двух заложников и потребовал созыва пресс-конференции. Но она не состоялась, поскольку заложники разоружили плюгавенького бандита и передали его в руки полиции.

Сумасшедший? Никак нет: две психиатрические экспертизы признали Валерия Фабриканта безусловно вменяемым, не страдающим психическими отклонениями и ответственным за свои действия.

Никто не предполагал, что бывший минский, ныне монреальский доцент превратит заседания Верховного суда провинции Квебек в сущий кошмар. Со скамьи подсудимых Фабрикант как следует отчитал прокурора, судью, свидетелей, "коррумпированных" адвокатов, которым дал отвод, и защищал себя сам. Он обвинил всех в профессиональной некомпетентности.

Полицейскому детективу, например, Фабрикант заявил: "Вы отвечаете на вопросы, как плохой студент, не подготовившийся к занятиям". В течение четырехчасовой речи Фабрикант обвинял освидетельствовавшего его врача в том, что тот элементарно бесчестный человек, что он страдает шизофренией и что вообще все психиатры — это не врачи, а самые настоящие садисты, психи. Судью он обвинил в ребячестве, а когда тот сказал, что не нуждается в его оценках, Фабрикант заявил: "Тогда ведите себя соответственно".

По канадским законам судья имеет право за оскорбление суда добавить к основному приговору в каждом конкретном случае 60 дней тюрьмы. Так вот, за оскорбление суда в течение всего процесса минчанин заработал "пенальти" (так это здесь называется) в общей сложности 730 дней, т.е. два года. Свидетеля, профессора Джорджа Ксистриса, Фабрикант, по сути, начал экзаменовать. Он спросил, сможет ли тот дать свое определение интегральному уравнению. В результате обвиняемый был удален из зала суда на 15 минут. Как в хоккее. Но и это не остановило террориста. Он и судью обозвал мошенником, "марионеткой Конкордии, жирной свиньей, сравнение с которой может оскорбить последнюю..."

— То, что сделал я, сделал бы в моих обстоятельствах каждый нормальный человек, — заявил Фабрикант в своем последнем слове.

Однако присяжных более убедило заключительное слово прокурора Жана Лекура, сказавшего, что "университет — это место для ученья, а не стрелковый тир в Минске".

Одиннадцать часов совещались присяжные. Они признали точным диагноз психиатров, в котором Фабрикант характеризуется как "самовлюбленная личность, страдающая комплексом постоянно преследуемого человека и проявляющего в силу этого чрезмерное недоверие и подозрительность по отношению к окружающим, а также испытывающего удовольствие от любой возможности их унизить". Что, впрочем, ярко проявилось и в суде.

Суд признал бывшего минского доцента и несостоявшегося монреальского профессора виновным в убийстве четырех человек, тяжелом ранении одного и приговорил его к пожизненному заключению. По канадскому законодательству Фабрикант имеет право на амнистию не раньше, чем через 25 лет.

Вот что сказал по этому поводу профессор университета Конкордии, бывший коллега Валерия Фабриканта Джеремия Хайес:

— Человек такого типа среди ученых — редчайший феномен, встречающийся раз в жизни.

И точно: аналогичного случая в истории Канады и Соединенных Штатов Америки еще не было.

*Монреаль, Канада.*

*Спасибо!*

## Теперь я знаю: быть человеком — значит сострадать

Никто из нашей семьи, встречая 1993 год, не мог и предположить, что он принесет нам столько печали. Буквально через две недели, 15 января, мой муж Леонид попал в автомобильную катастрофу. Колесо, оторвавшееся от идущей навстречу машины, опрокинуло УАЗ, на котором супруг и его сослуживцы возвращались из командировки. Это злосчастное колесо перевернуло всю нашу жизнь...

Теперь муж прикован к инвалидной коляске — отказываются служить ноги. Беда — иного слово не подберу. Понять меня могут только те, кто сам ухаживает за тяжелобольным близким человеком.

Но мы не одиноки с нашим горем. Все работники ПМК-58, которую до аварии возглавлял муж, работники треста "Пинскводстрой", да и не только они, откликнулись на наше горе. Кто как пытался уменьшить его: добрым словом, материальной помощью. На лекарства, в основном заграничные, нужны баснословные деньги. Их у нас, конечно же, не было. Откликнулись очень многие знакомые и незнакомые люди из разных уголков Полесья. Слова благодарности хочется сказать и региональной газете "Полесский край", которая издается в Пинске. Периодически она помещала на страницах счет помощи, напоминала строителям, мелиораторам, всем, кто ее читает, что помощь ему необходима. Газета как бы объединила очень многих людей из разных областей республики в их стремлении прийти на помощь человеку, оказавшемуся в беде.

И хотя мой муж все еще болен, но надежды мы не теряем. С огромной теплотой я говорю спасибо всем, кто принял участие в нашей беде. Каким бы страшным ни было сегодняшнее время, но люди и в таких условиях остаются людьми, не теряя своих самых сокровенных качеств — сострадать, приходить на помощь страждущему. И неправда, что в нашей жизни теперь осталось только два цвета: черный и белый. Между ними есть еще целая гамма теплых, светлых, благородных и искренних чувств.

**Лидия ХЛЕБУС.**

*г.Пинск.*

